Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск, Дом Урада, левае крыло, 4 паверх пак. № 415.

Тэл. № 22-540.

№ 6 (42) Год выдання 2-гі — 19 сакавіка 1936 г. № 6 (42)

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Загадам па Наркамунутгандлю БССР кіраўніком Беларускага аддзялення „Саюзкультгандаль“ назначан т. **Хевлін**—уперад да зацверджання гэтай кандыдатуры Наркомам Унутранага Гандля СССР.

◆ Наркамунутгандаль БССР абавязаў дырэктароў гандлёвых кантор і кіраўнікоў усіх гандлюючых арганізацый на працягу 5 дзён арганізаваць завоз патрэбнай колькасці тавараў у раёны, якім пагражае вясенняя паводка. Ніякія перабоі ў снабжэнні насельніцтва прадуктамі і таварамі ў час паводкі не павінны мець месца.

Таксама павінна быць забяспечана своечасовая вывазка тавараў са складаў і магазінаў на выпадак затаплення.

◆ Нарком Унутранага Гандля БССР тав. **Гурэвіч** указаў дырэктару Белпромгандля т. **Кантару** на адсутнасць з яго боку ўвагі да важнейшай справы гаспадарчай дзейнасці—своечасовага заключэння абавязковых дагавароў на 1936 г. На 1/III па Белпромгандлю засталася незаключанымі 5 дагавароў. Намесніку дырэктара Белпромгандля тав. **Энціну**, які непасрэдна адказвае за ход заключэння дагавароў, абвешчана вымова.

Разам з гэтым, Нарком адзначыў энергічную работу дырэкцыі Белхарчгандля па заключэнню дагавароў.

◆ Для ажыццяўлення аперацыйнага кантроля за выкананнем базамі прамысловасці зацверджаных планаў адгрузкі тавараў, Наркамунутгандаль прымацаваў работнікаў Наркамата да кантор і баз прамысловасці. На прымацаваных ускладзен абавязак разам з кіраўнікамі баз, сачыць за раўнамернасцю адгрузак па паасобных арганізацыях і раёнах, прымаць меры для забеспячэння поўнага выканання планаў адгрузкі. Такую-жа работу праводзяць Гарунутгандлі на месцах.

◆ У мэтах поўнага і своечасовага асвятлення руха аптовага і рознічнага гандля, Наркамунутгандаль абавязаў усе аб'яднанні Наркамунутгандля БССР і аддзяленні аб'яднанняў СССР прадстаўляць вучотна-статыстычнаму аддзелу НКУГ БССР кан'юнктурныя агляды па таваразвароту за кожны месяц не пазней 10 чысла наступнага месяца.

◆ У сувязі з фактамі разнабоя ў парадку давядзення гандлюючымі арганізацыямі да паасобных магазінаў цвёрдых квартальных заданняў па таварах штодзённага попыта, Наркамунутгандаль абавязаў гандлюючыя арганізацыі пры ўстанаўленні планаў таваразварота па магазінах, даваць рознічнай сетцы цвёрдыя квартальныя заданні, з разбіўкай па месяцах, па гандлю таварамі штодзённага попыта ў натуральным выражэнні.

◆ 1-га красавіка ў Віцебску адкрываецца універмаг Белпромгандля. Наркамунутгандаль СССР стварыў неабходны запас тавараў для універмага. Магазіну вызначана мануфактуры, швейных вырабаў, абутку, галош, шоўку, галантарэі і інш. тавараў на 989 тыс. руб. Для прыёмкі памяшкання універмага створана камісія, пад старшынствам дырэктара Белпромгандля т. **Кантара**.

◆ Аптова-адпускная цана на сырыя пільмені, выпрацоўваемыя прадпрыемствамі Белмясапромтрэста ўстаноўлена ў размеры 5 р. за кгр. Рознічная продажная цана ўстаноўлена ў 5 р. 50 за кгр.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Асартыментны мінімум для хлеба-булачных магазінаў

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР і Беларускага Трэста „Главхлеб“ Наркамхарчпрома СССР

7-га сакавіка 1936 г. **№ 213** г. Менск

У адпаведнасці з пастановай Наркамунутгандля СССР тав. **Вейцэра** і Наркамхарчпрома СССР т. **Мікаяна** аб увядзенні асартыментнага мінімума па хлебу і хлеба-булачных вырабах, Наркамунутгандаль БССР і Беларускі трэст „Главхлеб“ Наркамхарчпрома—пастанаўляюць:

1. Увесці з 15/III—36 г. у гарадской сетцы наступныя асартыментныя мінімумы:

а) **асартыментны мінімум № 1** у спецыялізіраваных хлеба-булачных магазінах Менска;

б) **асартыментны мінімум № 2** у спецыялізіраваных магазінах Віцебска, Гомеля, Магілева, Бабруйска, Оршы, Барысава, Полацка, Мазыра, Рэчыцы, Слуцка і ў хлебных аддзелах змешаных магазінаў Менска;

в) **асартыментны мінімум № 3** у хлебных аддзелах змешаных магазінаў вышэйпералічаных і астатніх гарадоў;

г) **асартыментны мінімум № 4** для хлебных палатак і ларкоў усіх гарадоў БССР.

Увага. а) Хлеб жытні заварны з мукі 95% памола, хлеб бародзінскі, хлеб пшанічны з мукі 96% памола і хлеб сітны гарчычны, увесці з 1-га красавіка 1936 г.

б) у булачную дробязь абавязкова павінны быць уключаны куханы.

2. Абавязаць загадчыкаў Гаррайунутгандляў не пазней 12-га сакавіка г/г. устанавіць перачэнь спецыялізаваных магазінаў, на якія распаўсюджваецца асартыментны мінімум № 1 (у Менску) і № 2 (у астатніх гарадах).

3. Абавязаць Гаррайунутгандлі неадкладна надрукаваць у друкарні за рахунак гандлюючых арганізацый асартыментны мінімум №№ 1, 2, 3, і 4 і ўручыць кожнаму загадчыку магазіна пад распіску для вывешвання на відным месцы ў магазіне.

Абавязаць Гарунутгандлі і дырэктароў торгаў прапрацаваць на нарадзе загадчыкаў хлебных магазінаў, дырэктароў хлебазаводаў і пекарань пастанову Наркамунутгандля СССР, і Наркамхарчпрома № 324/36 ад 29/II—36 г. і забяспечыць штодзённую наяўнасць у кожным магазіне хлеба-булачных вырабаў, указаных у асартыментным мінімуме.

4. Абавязаць ўсіх дырэктароў хлебазаводаў забяспечыць выпечку хлеба і хлеба-булачных вырабаў стандартнай якасці, у колькасці, якая поўнасцю задавальняе заяўкі гандлёвых арганізацый і папярэдзіць іх аб безумоўнай абавязковасці бесперабойнага снабжэння гандлёвай сеці тымі гатункамі хлеба і хлеба-булачных вырабаў, якія ўвайшлі ў асартыментны мінімум для адпаведных груп магазінаў.

5. Раней ўстаноўленыя трэстам хлебапячэння і Гарунутгандлямі асартыментныя мінімумы хлеба-булачных вырабаў—скасаваць.

6. Абавязаць Гарунутгандлі пастанову Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля Саюза ССР і Народнага Камісарыята Харчовай Прамысловасці Саюза ССР № 324/36 ад 29/II—36 г. не пазней 12/III, уручыць пад распіску ўсім дырэктарам хлебазаводаў, пекарань і загадчыкам магазінаў для няўхільнага выканання.

7. Даручыць упаўнаважанаму Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі т. **Левіну** і загадчыкам Гарунутгандляў правесці 16/III—36 г. па ўсіх гарадах праверку ўвядзення асартыментнага мінімума ў хлебных магазінах, і ў далейшым ажыццяўляць сістэматычны кантроль за выкананнем яго, прыцягваючы вінаватых да адказнасці ў адпаведнасці з пп. 6, 7 і 8 пастановы Саюзнаркамунутгандля і Саюзнаркамхарчпрома № 324/36.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

Дырэктар Трэста „Главхлеб“ Наркамхарчпрома **Барзуноў.**

---

### АСАРТЫМЕНТНЫ МІНІМУМ № 1 па хлебу і хлеба-булачных вырабах

1. Жытні хлеб з мукі 95 проц. памола (кіслы)
2. Жытні хлеб з мукі 95 проц. памола (заварны ці сталовы)
3. Жытні хлеб з мукі 87 проц. памола ці змешаны 96 проц. пшанічнай і 87 проц. жытняй
4. Пітляваны хлеб з мукі 65 проц. памола
5. Бародзінскі хлеб
6. Пшанічны хлеб з мукі 96 проц. памола
7. Пшанічны хлеб з мукі 85 проц., памола
8. Пшанічны хлеб з мукі 75 проц., або 72 проц. памола
9. Пшанічны хлеб з мукі 30 проц. памола
10. Сітны хлеб з макам
11. Сітны гарчычны хлеб
12. Французскія булкі
13. Халы і пляцёнкі
14. Батоны
15. Здоба венская
16. Крэндзелі здобныя з мукі 30 проц. памола
17. Здоба выборгская
18. Падкоўкі з макам
19. Разанчыкі
20. Булачная дробязь (не менш 5 гатункаў)
21. Баранкі простыя
22. Баранкі цукравыя
23. Сушкі чыстыя
24. Сушкі з макам
25. Бублікі
26. Бублікі з макам
27. Баранкі здобныя з мукі 30 проц. памола
28. Сухары гарадскія
29. Сухары цукравыя
30. Сухары ванільныя

31. Сухары слівачныя
32. Сухары кафейныя
33. Сухары дзіцячыя
34. Сухары грэнкі
35. Пранікі не менш 5 назваў
36. Пячэнне не менш 5 назваў
37. Кэксы, тарты, піро жныя.

(Дадатак да пастановы Наркамунутгандля СССР і Наркамхарчпрома СССР ад 29/II—36 г. № 324/36).

## АСАРТЫМЕНТНЫ МІНІМУМ № 2

### па хлебу і хлеба-булачных вырабах

1. Жытні хлеб з мукі 95 проц. памола (кіслы)
2. Жытні хлеб з мукі 95 проц. памола (заварны ці сталовы)
3. Жытні хлеб з мукі 87 проц. памола і змешаны 96 проц. пшанічнай і 87 проц. жытняй
4. Пітляваны хлеб з мукі 65 проц. памола
5. Бродскі хлеб
6. Пшанічны хлеб з мукі 96 проц. памола
7. Пшанічны хлеб з мукі 85 проц. памола
8. Пшанічны хлеб з мукі 75 проц. памола або 72 проц. памола
9. Пшанічны хлеб з мукі 30 проц. памола
10. Французскія булкі
11. Халы, пляцёнкі
12. Батоны
13. Здоба венская
14. Булачная дробязь (не менш 5 гатункаў)
15. Баранкі простыя
16. Баранкі цукравыя
17. Сушкі
18. Сушкі з макам
19. Баранкі здобныя з мукі 30 проц. памола
20. Сухары гарадскія
21. Сухары цукравыя
22. Сухары ванільныя
23. Сухары слівачныя
24. Сухары кафейныя
25. Сухары дзіцячыя
26. Сухары грэнкі
27. Пранікі (не менш 3 назваў).

(Дадатак да пастановы Наркамунутгандля СССР і Наркамхарчпрома СССР ад 29/II—36 г. № 324/36)

## АСАРТЫМЕНТНЫ МІНІМУМ № 3

### па хлебу і хлеба-булачных вырабах

1. Жытні хлеб з мукі 95 проц. памола (кіслы)
2. Жытні хлеб з мукі 95 проц. памола (заварны ці сталовы)
3. Пшанічны хлеб з мукі 96 проц. памола
4. Пшанічны хлеб з мукі 85 проц. памола
5. Пшанічны хлеб з мукі 75 проц., або 72 проц. памола
6. Пшанічны хлеб з мукі 30 проц. памола
7. Французскія булкі
8. Халы пляцёнкі
9. Здоба венская
10. Баранкі простыя
11. Баранкі цукравыя
12. Сушкі чыстыя
13. Сушкі з макам
14. Сухары і пранікі (2—3 назвы).

(Дадатак да пастановы Наркамунутгандля СССР і Наркамхарчпрома СССР ад 29/II—36 г. № 324/36)

## АСАРТЫМЕНТНЫ МІНІМУМ № 4

### па хлебу і хлеба-булачных вырабах

1. Хлеб жытні з мукі 96 проц. памола (кіслы)
2. Хлеб пітляваны з мукі 65 проц. памола
3. Хлеб пшанічны з мукі 85 проц. памола
4. Хлеб пшанічны з мукі 75 проц. памола
5. Французскія булкі з мукі 75% і 30 проц. памола
6. Здоба венская
7. Баранкі (не менш 3 гатункаў)
8. Пранікі (не менш 3 гатункаў)

(Дадатак да пастановы Наркамунутгандля БССР і Беларускага трэста „Главхлеб" Наркамхарчпрома СССР ад 7/III—36 г. № 213)

# Аб выкананні загада № 2091 Лепельскім і Магілеўскім Унутгандлямі

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР № 211

7-га сакавіка 1936 г. — г. Менск

Заслухаўшы даклад Лепельскага Акрунутгандля тав. **Мохарта** і разглядзеўшы матэрыялы праверкі гандлёвай сеткі па становішчу на 1/III ў галіне выканання загада № 2091 устаноўлена, што распараджэнне Наркамунутгандля БССР ад 20/II аб правядзенні суцэльнай праверкі гандлёвай сеткі, Лепельскім Акрунутгандлем не выканана. Праверкай ахоплена толькі 37% усей гандлёвай сеткі. Пры праверцы выяўлен рад парушэнняў: адсутнічаюць паасобныя тавары ў 31 магазіне—у 60 проц. праверанай сеткі (цукар—у 1 магазіне, соль—у 4 магазінах, махорка—у 2 магазінах, туалетнае—у 1 магазіне і ў радзе магазінаў адсутнічаюць танныя гатункі кандытарскіх вырабаў). Планы таваразварота па 8 таварах і асартыментныя кнігі да 1-га сакавіка па ўсёй сетцы адсутнічалі.

Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. За невыкананне распараджэння Наркамунутгандля БССР ад 20/II—36 г. аб правядзенні суцэльнай праверкі гандлёвай сеткі і за дапушчаныя грубейшыя парушэнні загада № 2091 Лепельскаму Акрунутгандлю—т. **Мохарту** абвясціць вымову.

2. Прыняць да ведама паведамленне т. **Мохарта**, што да 13/III ім будзе поўнасцю закончана праверка гандлёвай сеткі па ўсей акрузе і што ўсе выяўленыя недахопы будуць ліквідаваны.

3. Звярнуць увагу старшыні Белкаапсаюза т. **Баскіна** на грубейшыя парушэнні загада № 2091 Лепельскім Акрспажыўсаюзам (тав. **Вальпер**), дзе з праверапых 44 магазінаў сістэмы Лепельскага Акрспажыўсаюза, адсутнічаюць паасобныя тавары ў 28 магазінах. Прасіць т. **Баскіна** неадкладна прыняць меры, якія забяспечваюць поўную ліквідацыю ўказаных парушэнняў і накласці спагнанне на т. **Вальпера**.

4. Папярэдзіць Лепельскі, Бягомльскі, Вушацкі і Чашніцкі Райунутгандлі, што ў выпадку калі яны не дабʻюцца поўнай ліквідацыі парушэнняў,—у адносіне да іх будуць прыняты суровыя меры спагнання.

5. Прапанаваць Акрунутгандлю—т. **Мохарту** пры праверцы ўсей гандлёвай сетцы па акрузе правесці таксама праверку ажыццяўлення асартыментнага мінімума па магазінах Лепеля.

6. Выклікаць тав. **Мохарта** на 13/III для даклада аб выніках канчатковай праверкі ўсей гандлёвай сеткі акругі як па таварах штодзённага попыта, так і па асартыментнаму мінімуму па Лепелю.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

* * *

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

7-га сакавіка 1936 г. **№ 210** г. Менск

Разглядзеўшы матэрыялы другой праверкі ўсей гандлёвай сеткі па Магілёву і Магілёўскаму раёну па становішчу на 5-е сакавіка, устанавіць, што згодна матэрыялаў суцэльнай праверкі гандлёвай сеткі Магілёўскага Гарунутгандля **(т. Моін)** і галоўнага Інспектара Дзяржгандальінспекцыі **(т. Лапідус)**— па таварах штодзённага попыта няма ні аднаго парушэння. Планы таваразварота па 8 таварах штодзённага попыта і асартыментныя кнігі ёсць ва ўсёй сетцы. Устаноўлены запас тавараў, згодна загада № 2091, пры праверцы сеткі не парушан. Па асартыментнаму мінімуму для гарадскіх прадуктовых магазінаў, які ўведзен з 1-га сакавіка г/г., таксама няма парушэнняў, за выключэннем фактаў адсутнасці ў 13 магазінах расліннага масла і ў 15 магазінах аўсянай крупы. Гэтыя тавары ўводзяцца з 15-га сакавіка г/г.

Прыняць да ведама паведамленне Гарунутгандля і галоўнага інспектара Дзяржгандальінспекцыі, што мука 75 проц. памола ўжо ёсць і завозіцца ва ўсе магазіны.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Адзначыць, што Магілёўскі Гарунутгандаль **(т. Моін)** і галоўны інспектар Дзяржгандальінспекцыі **(т. Лапідус)** разам з гандлёвымі арганізацыямі зразумелі гаспадарча-палітычнае значэнне загада № 2091 аб гандлю таварамі штодзённага попыта і пастанову № 253 аб асартыментным мінімуме і прынялі меры, якія забяспечваюць выкананне гэтых рашэнняў.

2. Даручыць Гарунутгандлю і галоўнаму інспектару Дзяржгандальінспекцыі па Магілёву працягваць сістэматычную праверку гандлёвай сеткі па выкананню загадаў аб гандлі таварамі штодзённага попыта і ажыццяўлення асартыментнага мінімума з тым, каб замацаваць дасягнутыя вынікі.

3. Звярнуць увагу Гарунутгандля і гандлёвых арганізацый Магілёва на тое, што побач з забеспячэннем усёй гандлюючай сеткі таварамі штодзённага попыта і таварамі, якія ўваходзяць у асартыментны мінімум, іх задача заключаецца ў арганізацыі і хутчэйшым прасоўванні гэтых тавараў да пакупніка.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

# Гандляваць выключна добраякаснымі школьна-пісьмовымі прыладамі

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

4-га сакавіка 1936 г. **№ 202** г. Менск

Нягледзячы на неаднаразовыя ўказанні Наркамунутгандля БССР, усё яшчэ маюць месца факты прыёмкі ад пастаўшчыкоў гандлюючымі арганізацыямі школьна-пісьмовых прылад, якія па якасці не адпавядаюць пастанове СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 14/IX—35 г.

Нягледзячы на забарону Наркамунутгандля, гандлюючыя арганізацыі працягваюць снабжаць сваю рознічную сетку і пускаюць у продаж школьна-пісьмовыя прылады, якія не задавальняюць патрабаванням стандартаў, тэхнічным умовам і ўзорам (разасланы ўсім арганізацыям) у адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б).

У сувязі з гэтым загадваю:

1. Усім гандлюючым арганізацыям спыніць прыёмку ад пастаўшчыкоў школьна-пісьмовых прылад, якія не адпавядаюць па якасці рашэнню СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 14/IX—35 г., стандартам і тэхнічным умовам, зацверджаным Саюзнаркамунутгандлем.

2. Абавязаць гандлюючыя арганізацыі складаць акты на ўсе без выключэння тавары, якія паступаюць у аптовую і рознічную гандлёвую сетку. Акты на недобраякасныя і нестандартныя тавары, якія будуць складзены ў рознічнай сетцы і на складах павінны накіроўвацца цэнтрам гандлюючых арганізацый, а апошнія павінны іх перадаць судовым і кантрольным органам для прыцягнення вінаватых да адказнасці, а забракаваныя тавары звярнуць пастаўшчыкам, прад'яўляючы адначасова ўплату неўстоек і штрафаў у адпаведнасці з заключанымі дагаворамі.

3. Прапанаваць гандлюючым арганізацыям у дэкадны тэрмін із'яць усе наяўныя на базах, у магазінах і кіёсках школьна-пісьмовыя прылады, бракаваныя і неадпавядаючыя па якасці, і зацверджаным НКУГ СССР стандартам, і тэхнічным умовам.

4. Устанавіць, як правіла, афармленне актамі якаснай здачы—прыёмкі тавараў базамі ў рознічную сетку.

Абавязаць дырэктароў і загадчыкаў магазінаў перад пускам у продаж школьна-пісьмовых прылад праводзіць суцэльную якасную праверку ўсей партыі школьна-пісьмовых прылад.

5. Абавязаць кіраўнікоў гандлюючых сістэм пад іх асабістую адказнасць неадкладна даць указанне ўсей гандлюючай сетцы аб правядзенні гэтай пастановы ў жыццё і сістэматычна сачыць за выкананнем гэтай пастановы, а таксама забяспечыць гандаль выключна добраякаснымі і стандартнымі школьна-пісьмовымі прыладамі ў рознічнай сетцы.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

# Бесперабойна снабжаць хлебныя крамы ўсімі гатункамі хлеба

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

10-га сакавіка 1936 г. **№ 218** г. Менск

1. Адзначыць, што пачынаючы з 20/II—36 г., па гэты час Менскі хлебакамбінат не дадае штодзённа па 6—8 тон пшанічнага хлеба з мукі 85 проц. памола, супроць заявак хлебафуражнай канторы Менхарчгандля, у выніку чаго рад хлебных крам застаецца без пшанічнага хлеба 85 проц. памола.

2. Папярэдзіць дырэктара трэста „Галоўхлеб" тав. **Барзунова** і загадчыкаў па збыту тт. **Баброўскага** і **Гардона**, што ў выпадку непрыняцця імі да 11/III неабходных мер па бесперабойнаму снабжэнню Менска патрэбнай колькасцю пшанічнага печанага хлеба 85 проц. памола, Наркамунутгандлем будзе перадана справа пракурору для прыцягнення вінаватых да судовай адказнасці.

3. Давесці да ведама ўпаўнаважанага Наркамхарчпрома СССР па БССР т. **Крылова** аб зрыве гандля пшанічным хлебам 85 проц. памола па Менску па віне прадпрыемстваў хлебапячэння „Галоўхлеб", для прыняцця неабходных мер.

Нам. Наркома Унутранага
Гандля БССР **І. Верба.**

# Аб парушэннях пастановы Наркамунутгандля аб кнігах скаргаў у магазінах

*(З пастановы Ўпаўнаважанага Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР ад 3/III—36 г. № 45)*

Праверкай установлена, што да гэтага часу ў некаторых гандлёвых прадпрыемствах адсутнічаюць кнігі скаргаў (ларок № 16 плодагароднай канторы Менхарчгандля—заг. т. **Кіловіч**, ларок № 3 арцелі інвалідаў—заг. **Львовіч**, ларок № 11 арцелі „Пебеда"—заг. **Камянецкая**).

Па раду гандлёвых прадпрыемстваў не даюцца адказы на скаргі пакупнікоў (магазіны №№ 28, 51 і 73 Менхарчгандля, магазіны № 10, № 43—Менпромгандля магазін № 36 ОРС'а ДН-3, магазін Белгасснабзбыта і інш.).

Кнігі скаргаў не правяраюцца кіраўніцтвам гандлюючых арганізацый, у іх адсутнічаюць адзнакі інструктароў аб праверцы і аб прынятых мерах па скаргам.

Па раду гандлёвых прадпрыемстаў кнігі скаргаў не аформлены ў адпаведнасці з існуючым палажэннем, не прамонераваны, не прашнураваны і не прапячатаны.

Амаль ва ўсіх правераных гандлёвых прадпрыемствах адсутнічаюць аб'явы, якія запрашалі-б пакупнікоў запісваць у кнігі скаргаў заўважаныя недахопы, або аб месцы знаходжання кнігі скаргаў і аб прозвішчы прадстаўніка вышэйстаячай гандлюючай арганізацыі, які павінен правяраць кнігу скаргаў.

Выходзячы з гэтага пастанаўляю:

Прапанаваць дырэкцыі Менхарчгандля зняць з работы загадчыка магазіна № 28 тав. **Вольпава** і перавесці яго на работу прадаўца, за недачу адказа на 11 скарг. Абвясціць суровую вымову з папярэджаннем за нерэагаванне на скаргі пакупнікоў загадчыку магазіна № 51 т. **Невярману** і № 73 т. **Гэрчыкаву**, і за адсутнасць кнігі скаргаў—загадчыку ларка № 16 т. **Кіловічу.**

Прапанаваць дырэкцыі Менпромгандля, за нерэагаванне на скаргі пакупнікоў, абвясціць суровую вымову з папярэджаннем загадчыкам магазінаў № 43—т. **Фундылеру** і № 10—т. **Эйдзіну.**

Прапанаваць Начальніку Менскага аддзялення ОРС'а ДН-3 т. **Галоўка**, за недачу адказа на 8 скарг зняць з работы загадчыка магазіна № 36 т. **Бацвінніка**, перавёўшы яго на пасаду прадаўца.

Прапанаваць начальніку Менскай канторы ТПУ НКУС т. **Грынблату**, за недачу адказа на скаргі, абвясціць загадчыку універмага т. **Гольдбергу** суровую вымову з папярэджаннем.

Прапанаваць дырэкцыі Белгасснабзбыта за недачу адказа на 2 скаргі абвясціць вымову загадчыку магазіна т. **Ліўшыцу.**

Прапанаваць дырэкцыі Менхарчгандля, Менпромгандля і ОРС'а ДН-3 накласці адміністрацыйныя спагнанні на інструктароў, прымацаваных да магазінаў, за неажыццяўленне нагляда за кнігамі скаргаў і нерэагаванне на скаргі спажыўцоў.

Усім гандлюючым арганізацыям выканаць пастанову НКУГ СССР у адносіне абавязковага вывешвання ва ўсіх гандлёвых прадпрыемствах аб'яў, запрашаючых спажыўцоў запісваць у кнігі скаргаў аб заўважаных недахопах. У аб'явах таксама паведамляць спажыўца аб месцы знаходжання кнігі скаргаў, аб прозвішчы прадстаўніка гандлюючай арганізацыі які прымацован да дадзенага магазіна. У абавязковым парадку вывесіць пастанову НКУГ СССР № 284 ад 21/IV—35 г. аб кнігах скаргаў.

Папярэдзіць усіх кіраўнікоў гандлюючых арганізацый і загадчыкаў гандлёвых прадпрыемстваў, што за малейшае апашленне значэння кнігі скаргаў і невыкананне паказанай пастановы НКУГ СССР аб кнігах скаргаў, яны будуць прыцягнуты да суровай адказнасці.

## За што зняты з работы загадчык магазіна ВЭО

### ПАСТАНОВА

**Упаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР**

3-га сакавіка 1936 г. **№ 44** г. Менск

У выніку праведзенай праверкі Дзяржгандальінспекцыяй скаргі на дзейнасць заг. магазіна ВЭО устаноўлена, што заг. магазіна ВЭО **Данішэўскі** яўна парушыў пастанову Наркамунутгандля СССР ад 3-га лютага 1936 г. № 179. Парушэнне выразілася ў тым, што **Данішэўскі** хаваў для паасобных пакупнікоў электра-тавары. Так, нармальныя пробкі ў колькасці 1050 шт. і штэпсульныя вілкі ў колькасці 95 шт., якія прадназначаліся для вольнага продажу былі выяўлены ў скрынях пад прылаўкам.

Выходзячы з гэтага пастанаўляю:

За яўнае парушэнне пастановы НКУГ СССР ад 3/II—36 г. № 179, якое выразілася ў сістэматычным хаванні тавараў для пэўных асоб, што мела месца і пры праверцы гэтага магазіна ў лістападзе 1935 г., калі заг. **Данішэўскі** таксама схаваў 1000 метраў шнуру, за што яму была абвешчана суровая вымова з папярэджаннем і занясеннем у працоўны спіс,—прапанаваць нам. кіраўніка ВЭО т. **Румянцэву** зняць з работы заг. магазіна Данішэўскага.

Упаўнаважаны Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР **Левін.**

---

## Парадак аплаты працуючым на дэцзагатоўках

### ПАСТАНОВА

**Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР**

7-га сакавіка 1936 г. **№ 209** г. Менск

1. Для стварэння максімальнай зацікаўленасці работнікаў, занятых непасрэдна на дэцэнтралізаваных загатоўках у раёнах, Наркамунутгандаль дазваляе на 1-е поўгоддзе ўстанавіць замест існуючых цвёрдых ставак зарплаты наступную шкалу зарплаты ў процантах ад сумы загатовак:

Мяса, птушка дзіч, масла і рыба . . . . да 5 проц.
Яйкі, малочныя прадукты і мёд . . . . . да 6 „
Фрукты костачковыя і культурныя ягоды да 4 „
Гародніна і дзікарастучыя . . . . . . . да 3 „
Бульба . . . . . . . . . . . . . . . . да 2 „

2. Устанавіць, што ўсякія аплаты камандыровачным работнікам па дэцзагатоўках у раёне загатовак не дапускаецца.

Нам. Наркома Унутранага Гандля БССР **І. Верба.**

---

## Аб забароне гандлю таварамі санстанцыямі

### ЗАГАД

**па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР**

26/II—36 г. **№ 96** г. Менск

У практыцы ўвядзення асартыментнага мінімума і разгортвання гандля таварамі штодзённага попыта, маюць месца факты, калі санітарныя станцыі па розных матывах забараняюць гандаль таварамі, якія ўваходзяць у асартыментны мінімум, або ў групу тавараў штодзённага попыта.

Загадваю:

1. Усім Гаррайунутгандлям у кожным выпадку забароны санстанцыяй гандлю таварамі штодзённага попыта, або таварамі, якія ўваходзяць у асартыментны мінімум,—дабівацца атрымання матываванага тлумачэння санстанцыі — пісьмовае распараджэнне аб забароне.

2. Гаррайунутгандлям узгадніць з санстанцыямі пытанне аб тым, што толькі пры ўмове паказанага ў п. 1, забарона будзе абавязковай для загадчыкаў магазінаў.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

## Аб разбазарванні хлебазакупачных фондаў промтавараў у Чашніцкім раёне

### ПАСТАНОВА

**Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР**

9-га сакавіка 1936 г. **№ 221** г. Менск

Праверка Наркамунутгандлем БССР матэрыяла, дасланага газетай „Рабочий“ паказала, што заметка газеты „Рабочий“, пад назвай „В Чашницком районе еще все существует карточная система“,—цалкам пацвердзілася.

Атрыманая Чашніцкім райсаюзам хлапчатка, якая згодна пастаноў Наркамунутгандля СССР павінна быць пераключана на „Закупхлеб“,—старшынёй райсаюза **Фроленковым** раздана па спісу работнікам раёна „пяцёрке“—на 150 р. і „20-ке“ на 100 р. кожнаму са скідкай 50 проц. за кошт Райфо. Такія-ж факты мелі месца і з харчовымі таварамі, якія адпускаліся па спісах і па паніжаных цэнах, чым парушылі савецкую палітыку цэн, захаваўшы пры гэтым картачную сістэму.

Выходзячы з гэтага, Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. Паставіць пытанне перад старшынёй Чашніцкага РВК аб неадкладным зняцці з работы Райгандля **Курсанава**, які ведаў аб гэтых фактах і не паведаміў своечасова Наркамунутгандаль.

2. Паведаміць Наркамфін аб незаконных дзеяннях Чашніцкага Райфінаддзела, які пакрыў 50 проц. кошта незаконна раздадзенай хлапчаткі з дзяржаўных сродкаў, на што было выдаткавана 1738 р. 02 к.

3. Пытанне ў цэлым аб грубым парушэнні парадку выдаткавання промтавараў хлеба-закупачнага фонда, захаванні ў раёне картачнай сістэмы і інш.—унесці ў дырэктыўныя органы.

4. Паведаміць старшыні БКС т. **Баскіну** аб дзеяннях б. старшыні Лепельскага Акрсаюза для прыняцця адпаведных мер.

5. Папярэдзіць усе Акргаррайунутгандлі аб тым, што за нерэагаванне на падобныя факты разбазарвання фондаў і парушэнне савецкай палітыкі цэн, — яны будуць прыцягвацца да самай суровай адказнасці.

Папярэдзіць Райунутгандлі, што прадукты закупленыя ў парадку дэцзагатовак не для грамадскага харчавання павінны прадавацца па адзіным цэнам.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# ЦЭНЫ

## Адпускныя цэны на вырабы промкааперацыі і кааперацыі інвалідаў

*(Пастанова Канвенцыйнага Бюро Наркамунутгандля БССР № 5, ад 27-га лютага 1936 года).*

**Устанавіць адпускныя цэны фр.-вытворчасць з непланавай сыравіны на наступныя вырабы:**

**Бабруйская арцель „Прагрэс" Менскурпромсаюза.** Лодачкі жаноч. з аленьяй замшы, механіч. прашыўка, наскі і задн. з чорн. шаўр., гум. падашва—18 руб. 80 к.

**Менская арцель „Чырвоны Абутнік"—Менскурпромсаюза.** Лодачкі камбініраваныя, берцы хакіноскі і заднікі шаўрэтавыя, гум. падашва, механіч. прашыўн.—12 р. 15 кап.

Пастромкі з цясьмы і сырамятнай скуры—25 р. 60 кап.

**Магілеўская арцель імя Крупскай, Аршанскага швейсаюза.** Юбка поўвіскозная, фангавая, разм. 48—50—24 р. 60 к. Прапанаваць Белкаапромсовету даручыць арцелі выпускаць таксама і блузкі к юбкам.

Світар вялікі баваўняны, фангавы, разм. 48—50—12 р. 40 к.

Феска дзіцяч. шоўкавая—1 р. 35 к.

Блузка безрукаўка, шоўкавая, разм. 48—14 р. 40 к. Прапанаваць Белкаапромсовету абавязаць арцель выпускаць блузкі з рукавамі.

Плацце дзіцячае, шоўкавае, утыльнае—7 р. 75 к.

Плацце дзіцячае поўшоўкавае з зрыва—6 р. 15 к. Гэтая цана зацвярджаецца пры ўмове выпуска плацця з правільным і гарманічным спалучэннем колераў.

Канбінацыя жаночая шоўкавая, вага 110 гр.—8 р. 60 к.

Райтузы дзіцячыя поўшоўкавыя, фанговыя з зрыва—7 р. 35 к. Прапанаваць Белкаапромсовету абавязаць арцель выпускаць світры і райтузы з пражы аднаго колеру.

**Дубровенская арцель.** Касцюм поўвіскозны—фанговы, вага 0,9 кгр.—57 р. 10 к.

**Арцель імя XVII партз'езда Аршанскага Швейсаюза.** Шкарпеты дзіцячыя, баваўняныя № 3—5—8 р. за дзесятак, таксама з рэзінкай у насадку баваўняныя № 5—7—15 руб. за дзесятак.

Райтузы дзіцячыя, баваўняныя № 1—3—1 р. 90 к.

Плацце дзіцячае, баваўнянае № 1—3—5 р. 70 кап.

Саколкі дзіцячыя баваўняныя № 1—3—1 р. 70 кап.

Майкі дзіцячыя, футболкі № 4—5—3 р. 10 кап.

Плацце жаночае, віскознае № 46—50. Цана 44 р.

Блузка віскозная без рукавоў № 46—50—13 р. 60 кап. Прапанаваць Белкаапромсовету абавязаць арцель адначасова выпускаць блузкі з рукавамі.

Камбінацыя жаночая віскозная № 46—50, вага 220 гр.—13 р. 75 кап.

Плацце дзіцячае віскознае—8 руб.

Сарочкі жаночыя віскозныя 11 р. 60 к.

Паясы, шнур к халатам—2 р. 80 к., таксама дзіцячыя—1 р. 55 к.

Цэны на майкі №№ 32, 33, 34 і на плацце дзіцячае не ўстанаўліваць з прычыны непрадстаўлення ўзораў.

**Арцель імя Крупскай, Меншвейпромсаюза.** Плацце дзіцячае, плацір. № 1, вага 250 гр.—3 р. 55 к.

Рубаха жаночая з гальштукам, вага 375 гр.—10 р. 25 к.

Райтузы баваўняныя, фанговыя № 3, вага 360 гр.—8 р. 60 к.

Платок шоўкавы, вага 800 гр.—79 р.

Рубаха жаночая плаціраван. з гальштукам, вага 330 гр. 17 р. 37 к.

Арцель „Гомтэкстыль" Гомельскага Швейпромсаюза.

Дарожка фарбаваная, з роўніцы (ільняная і пяньковая пража № 6/3, 6/4, 8/3, 8/4, 8/5, 8/6, шыр. 55 см., вага 605 гр.)—4 р. 84 к. за метр, таксама шыр. 65 см., вага 733 гр.—5 р. 67 к. за метр.

Дарожка фарбаваная з ціціўкі (ільняная пража і ціціўка № 6/3, 6/4, 8/3, 8/4, 8/6, шыр. 55 см., вага 775 гр.)—5 р. 81 к. метр, таксама шыр. 65 см.—6 р. 84 к. метр. Прапанаваць арцелі палепшыць вязку і даваць сыравіну лепшай якасці.

Плацце баваўнянае, дзіцячае, утыльнае № 2—32 р. за дзесятак. Цану на плацце № 3 не ўстанаўліваць з прычыны адсутнасці ўзора.

Плацце дзіцячае, віскознае № 3, утыльнае—65 р. за дзеятак.

Канвенцбюро пастанавіла цану на самавязы не ўстанаўліваць з прычыны адсутнасці попыта.

**Менская арцель „XVI МЮД", Менскага Лесдрэўхімсаюза.**

Крэсла садовае, лазовае, афарбаванае ў белы колер—44 р. 65 к.

Стул садовы, лазовы, афарбаваны ў белы колер—29 р. 50 к.

Стол садовы лазовы, афарбаваны ў белы колер, даўжыня 75 см.—23 р. 25 к.

Дыван садовы двухмесны, лазовы, афарбаваны ў белы колер—68 р. 50 к.

Стульчык дзіцячы лазовы, пакрыты лакам—4 р. 35 к.

Этажэрка дзіцячая, лазовая, пакрыта лакам—8 р.

Этажэрка лазовая, пакрыта лакам—9 р.

Качалка дзіцячая, лазовая, пакрыта царатай—6 р. 35 к., тумбачка лазовая, пакрыта лакам—3 р. 50 к.

Ложак дзіцячы, лазовы, плецен., разм. 20×10 вяршк.—13 р. 95 к., таксама разм. 24×10—16 р.

Стульчык высокі, лазовы, пакрыт лакам і царатай—8 р. 20 к.

Кветачнік лазовы на 1 гаршок, пакрыт лакам—4 р. 10 к.

Стульчык начнік, лазовы, пакрыт царатай і лакам—4 р. 50 к.

Столік дзіцячы, пакрыт царатай і лакам—6 р. 80 к.

Дыванчык дзіцячы лазовы, пакрыт царатай і лакам—6 р. 80 к.

Бумажніца лазовая—2 р. 25 к.

Шырма лазовая, 4-х цен., абцягнута сітцам, пакрыта лакам—42 р. 55 к.

Матрац-пярынка 181×70 см., на стружцы, абцягнут цікам—24 р.

1887

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

г. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 412, тел. 25-691. Адрес для телеграмм—МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160/10076.

## ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа

Пряники саксонские, из 80 проц. муки, сахарист. 55 проц.—50 тонн—4 р. 30 к. кгр., акцепт.

Кондитерские изделия—300 тонн, в ассортименте: мармелад и пастила 40 проц., карамель 40 проц., печенне разное 20 проц., цены промышленности, франко-производство, акцепт.

Мед искусственный-паточный, сахарист. 50 проц., плотн. по Боме 38°, 1-го сорта—50 тонн—2150 руб. за тонну, фр.-склад продавца, акцепт, тоже 35 тонн—2000 руб. за тонну, фр.-склад продавца, акцепт.

Мед паточный 1-го сорта, сахарист. 40—45 проц., плотн. по Боме 38—40°—50 тонн—1900 руб. за тонну, фр.-склад поставщика, акцепт.

Сироп клюквенный, сахарист. 55—60 проц., плотн. по Боме 32—33°—10 тыс. литров—4 р. 70 к. за литр, фр. вагон ст. отправления, акцепт.

Махорка курительная № 2—3 000 ящиков, по 600 пачек, расфасован по 50 гр., цена 300 руб. за ящик, фр. станция назначения, акцепт.

Крахмал картофельный, сырец—центрофужный, влажн. 35—40 проц.—140 тонн—645 руб. за тонну, фр.-станц. отправления, акцепт.

### Лесохимическая группа

Гуталин черный—100 тыс. банок—2 р. 80 к. за десяток+50 проц. бюджетной наценки, фр.-производство, акцепт.

Галипот—200 тонн,—1005 руб. за тонну, фр.-вагон ст. отправления, акцепт.

Смола березовая строительная—50 тонн—280 руб. за тонну, фр.-производство, акцепт.

Клейбо-масса—25 тонн—341 р. 50 к. за тонну, тоже кондиционная 400 тонн—350 руб. за тонну, лак асфальтовый 25 тонн—719 р. 50 к. за тонну, смола строительная 40 тонн—501 р. 16 к. за тонну, лак специальный 25 тонн—405 р. за тонну, фр.-производство, акцепт.

Колесная мазь галипотная—500 тонн—433 руб. за тонну, деготь химический искусственный—300 тонн—600 руб. за тонну, фр.-вагон.

Декстрин 1-го сорта—16 тонн—1700 руб. за тонну, тоже 2-го сорта—16 тонн—1500 руб. за тонну, фр.-вагон ст. отправления, акцепт.

Сургуч красный в палочках—10 тыс. кг.—2250 р. плюс 33% госбюджетной наценки, фр.-склад продавца, акцепт.

Дрань штукатурная, дл. 1 мт., шир. 2,5—3 мм.—3 миллиона шт., цена 16 руб. за тысячу штук, фр.-вагон, акцепт.

Уголь древесный сосновый—500 тонн—220 руб. за тонну, фр.-вагон ст. отправления и 194 руб. за тонну, фр.-производство, акцепт.

### Тара

Корзины под химические балоны, разм.—71 × 36 × 30 см.—2 млн. шт., цена 2 р. 05 к., фр.-производство.

Бочки еловые—2 000 шт., разм. 80 × 70 см.—24 р., 80 × 55 см.—18 р. 33 к., фр.-склад продавца, акцепт.

Корзины богажные—5500 шт., 12 вершк.—12 р. 80 к. 14 вершк.—15 р. 37 к., 16 вершк.—17 р. 87 к. плюс 15 проц. госбюджетной наценки, фр.-производство.

### Промтоварная группа

Оси железные с чугунными втулками № 2—500 шт., по 22 руб. за шт., замки висячие амбарные—2 000 шт., по 6 р. 30 к. за шт., тоже чугунно-литые—2 000 шт., по 6 р. 25 коп. шт., тиски параллельные неповоротные 80 мм.—100 шт., по 32 руб. за шт., фр.-склад продавца, акцепт.

Втулки райбированные № 2—25 тыс. шт., по 1 р. 60 к., тоже № 3—25 тыс. шт., по 2 руб. за шт. плюс 5 проц. наценки продавца, акцепт.

Картофелечистки приспособленные к мотору—20 шт.—325 руб. фр.-склад продавца, кухонные плиты без комфорок—17 тонн, по 400 руб. тонна, седелки железные (без войлока)—3000 шт—1 р. 20 к. за шт., удила—2 000 шт., по 80 коп. за шт. фр.-производство, акцепт.

Возжи тесемочные с пружинками—10 тыс. шт., по 6 р. 80 к., фр.-склад, продавца, акцепт.

Лодки для катания—100 шт., двухгребки—240 р., одногребки—230 руб. за шт., фр.-склад продавца, акцепт.

Топоры плотничьи—15 тыс. шт., цена 7 р. 30 к. за шт., фр.-склад производство, акцепт.

Чуни пенько-льняные—150 тыс. пар, по 3 р. 50 к., за пару, фр.-склад-продавца, акцепт.

## СПРОС ТОВАРОВ

Яблоки крымские, тюлька маринованная и соленая без ерша, сельди разные, орехи буковые и фисташки чернослив сушенный, урюк, сабза, мандарины, колбаса, свинокопченности, битая птица, питьевая сода, бельевая сода, мак, папиросы II-го и III-го сортов, сухофрукты (груши, яблоки, сливы, курага, сушенный виноград), лук свежий, фасоль, глицерин чисто-химический, серная кислота, черный лак, лоза белая и лозовые палки, клепка дубовая, клепка осиновая колотая и пиленая, мешки старые и новые, парафин светлый и желтый, бутылки чистые разных размеров, краска в пакетах, гуталинные банки—стеклянные и жестянные, фтористый натрий, железный купорос, медный купорос, деготь березовый, рукавицы утильные из разной ткани, пакля строительная, смольная прядь, ветошь, вата белая 1-го сорта, веники рисовые 1-го сорта Сарго.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 415, тэл. 22-540.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 301. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 3225.